

ГАЗЭТА ВЫХОДЗІЦЬ РАЗ У ТЫДЗЕНЬ — ЦАНА 30 Н. ФЭН.


ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAĆKAUSČYNA“ („VATERLAND“),
Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkauščyna“ („Das Vaterland“),
(13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына:** на год. — 14,— м.; 6 м-цаў — 7,50 м.; 3 м-цы — 4,25 м.; **ЗША і Канада:** на год — 8,— д.; 6 м-цаў — 4,50 д.; 3 м-цы — 2,50 д.; 1 нумар — 0,20 м. **Ангельшчына й Аўстралія:** 39 шыл.; 21 шыл.; 12 шыл.; 1 шыл. **Бэльгія:** 210 фр.; 120 фр.; 75 фр.; 5 фр. **Францыя:** 800 фр.; 450 фр.; 250 фр.; 20 фр. **Аргентына:** 80 пэз.; 45 пэз.; 25 пэз.; 2 пэз. **Перасылка л[illegible]іцкай поштай каштуе падвойна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна. Паадзіночныя нумары газэты разам з «Каласкамі» ўважаюцца за падвойныя.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkauščyna“,
Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE WHITERUTHENIAN NEWSPAPER “THE FATHERLAND„

№ 41 (477) — Нядзеля, 8 лістапада 1959 г. — ГОД ВЫДАНЬНЯ 13


# Новыя павевы ў бальшавіцкай прапагандзе

На апошняй сэсіі Вярхоўнага Савету СССР Хрушчоў выступіў з паўтарагадзіннай прамовай, якая цяпер шырака й парознаму камэнтуецца ў прэсе й радыё бальшыні заходніх краінаў. Гэтая прамова зьмяшчае ў сабе некаторыя цікавыя ноткі, якія даюць магчымасьць прасачыць кірунак цяперашняй бальшавіцкай унутранай і, у першую чаргу, вонкавай палітыкі. На нашую думку заходнім камэнтатарам не заўсёды ўдавалася дайсьці да корня справы і з награвуджжаньня агульных фразаў вылушчыць запраўдны сэнс і мэту номых павеваў у бальшавіцкай прапагандзе. Між іншым, выкрыцьцё прычынаў гэтых «новых павеваў» ня вымагае нейкіх асабліва складаных аналізаў. Тое, што Хрушчоў хоча дасягнуць сваёй новай прапагандовай кампаніяй за «паслабленьне міжнароднага напружаньня» ён даволі выразна выказаў у першай частцы прыгаданай прамовы. Ён — супраць палітыкі «умешваньня ў чужыя справы» і — за «мірнае суіснаваньне». Пад «умешваньне» ён падводзіць палітыку падтрымоўваньня ідэяў вызваленьня народаў ад камуністычнага панаваньня, якая мае шмат прыхільнікаў у Задзіночаных Штатах і некаторых іншых краінах. Хрушчоў выводзіць, што гэтая палітыка неразрыўна зьвязаная з ужыцьцём сілы, гонкай узбраеньняў і, у канчальным выніку, можа скончыцца толькі вайной з усімі ейнымі страшэннымі вынікамі. Ён заяўляе, што «[illegible] народы», якія вызваліўся ад капіталістычнай эксплятацыі, ніколі яшчэ ня выказваў жаданьня, каб яго вызвалялі ад заводаў і хвабрыкаў» і гэтак далей.

Гэтая фраза прызначаная хіба толькі для ўнутранага карыстаньня. Якраз гэтымі днямі ўвесь некамуністычны сьвет адзначае ўгодкі, калі «вызвалены» савецкім войскам вугорскі народ падняўся супраць гэтых «вызвольнікаў» і прынесенай імі камуністычнай тыраніі — за сваю нацыянальную свабоду й незалежнасьць. А гэта найлепшы доказ таго, што жаданьне вызваліцца існуе, толькі ня з боку замежных капіталістых, як гэта цьвердзіць Хрушчоў, а з боку самых паняволеных расейскім бальшавізмам народаў. І вось гэта Хрушчова найбольш трывожыць. Таму ён з задаваленьнем адзначае, што «цяпер часы зьмяніліся». Гэта значыць, што Захад, маўляў, штораз больш пераконваецца, што сымпатызаваць вызвольніцкім ідэям сярод падкамуністычных народаў і маральна падтрымоўваць гэтыя ідэі няма сэнсу, бо й апошнюю спробу вызваліцца з расейска-бальшавіцкай імпэрыі — вугорскае паўстаньне — Хрушчоў змог здушыць, утапіўшы ў моры крыві. Аднак Хрушчоў не адважыўся выказаць свайго перакананьня ў поўную і канчатковую перамогу на гэтым адрэзку.

Тут-жа ён заяўляе, што «адгалоскі старога там-сям яшчэ чуваць. Узяць, напрыклад, — гаварыў ён, — сумнай памяці пастанову амэрыканскага Кангрэсу правесьці гэтак званы «Тыдзень паняволеных камунізмам народаў» і ўзносіць малітвы аб іхным вызваленьні».

Варта адзначыць, што тут Хрушчоў лішні раз сьведама выкрыўляе палажэньне ў сваю карысьць. Яму добра ведама, што амэрыканскі Кангрэс — гэта не «адгалосак» і не «там-сям», а найбольш скандэнсаваная воля ўсяго амэрынскага народу. Называючы дэклярацыю Кангрэсу «сумнай памяці», Хрушчоў, відавочна, песьціць надзеі, што пасьля ягонага падарожжа па Задзіночаных Штатах і ягоных апошніх «міралюбных» дэклямацыяў, гэтая дэклярацыя будзе пахаваная й забытая амэрыканскім грамадзтвам, а лёс паняволеных бальшавізмам народаў станецца абякавым для Захаду. А гэтым самым Хрушчоў атрымаўбы магчымасьць стаць у становішча неаспрэчнага валадара падпарадкавых яму народаў, якія, ў сваю чаргу, былі-б змушаныя канчаткова згадзіцца з сваім лёсам, аддаць «на злом» сваю веру ў вызваленьне, веру ў тое, што вольны сьвет разумее іхную трагедыю й ім спачувае, ды пачаць шукаць сабе ратунку ў супрацоўніцтве з існуючым рэжымам.

Падарваўшы й зьнішчыўшы веру народаў у вызваленьне, Хрушчоў змог-бы гаварыць з Захадам з больш устойлівай «пазыцыі сілы» за тую, на якой ён стаіць цяпер. Польскія й вугорскія падзеі паказалі, што на падтрымку насельніцтва сатэлітных краінаў Хрушчоў ніяк разьлічваць ня можа. Хрушчоў напэўна добра адчуў тую вялізарную розьніцу ў сымпатыях, якія выявіліся, напрыклад, пры прыняцьцях насельніцтвам Варшавы яго й Ніксана. Зразумела, такая стыхійная й адкрытая дэманстрацыя сымпатыяў насельніцтва да Захаду не магла-б адбыцца ў кожнай іншай камуністычнай краіне, як гэта было ў Польшчы, дзе, як ведама, існуе адносная свабода. Аднак і ў самым Савецкім Саюзе Хрушчоў ня чуецца гаспадаром палажэньня. Факты паказваюць, што з усіх сілаў, якія супрацоўляліся й супрацоўляюцца бальшавіцкай сыстэме, найбольш жывучымі й непераможнымі выявіліся сілы нацыянальнага супраціву нерасейскіх народаў.

Апошнім часам крамлёўскія валадары відаць на зразумелі, што іхная ўласная прапаганда за нацыянальную свабоду й незалежнасьць каляніяльных народаў Захаду павярнулася супраць іх самых. Нерасейскія народы СССР лёгка адшукоўваюць крычачую аналёгію паміж іхным сяньняшнім палажэньнем і палажэньнем залежных народаў аджываючай каляніяльнай сыстэмы на Захадзе, якую так яскрава расьпісвае бальшавіцкая прапаганда. Нарастаньне небясьпечных для рэжыму нацыянальных фэрмэнтаў унутры СССР змушае партыю, апрача ўжываньня клясычных бальшавіцкіх мэтадаў здушваньня нацыянальных рухаў, шукаць выхаду ў вельмі сваеасаблівых прыёмах вонкавай палітыкі. Гэта можа было адчуць у часе падарожжа Хрушчова па Задзіночаных Штатах, калі паяўляліся галасы аб двух вялікіх народах сьвету — расейскім і амэрыканскім. А ў прыгаданым выступленьні на сэсіі Вярхоўнага Савету, Хрушчоў, ахвяроўваючы прэстыжам ня толькі францускіх камуністых..., гаварыў не аб «вызвольнай вайне» альжырскага народу, а толькі аб «вайне». Пры гэтым ён вельмі спачувальна адгукнуўся на імкненьні Французаў захаваць «веліч» Францыі й францускага народу. Нам ня думаецца, што гэта зьмена тону была прадыктованая толькі падрыхтоўкай грунту для будучай сустрэчы Хрушчова з Дэ Голем. Іграньне на «велічы» некаторых народаў мае, хіба, глыбейшы сэнс. Гэтая непапулярная на Захадзе мэлёдыя ў Савецкім Саюзе дасягнула сяньня свайго эпагэю. Адна з гэтак званых «роўных» сацыялістычных нацыяў — расейская нацыя — без прыметніка «вялікі», «вялікая» амаль нідзе больш ня прыгадваецца. Расейскі народ, народ «яснага розуму», «найбольш перадавой культуры», найбольш «прагрэсыўны» народ сьвету, які ўсе іншыя народы (пакульшто толькі) Савецкага Саюзу ды часткова сатэлітаў павінны ўва ўсім насьлядоўваць і ў абавязковым парадку пераймаць ягоную мову ды культуру нагул. У навейшай гісторыі гэтая практыка знаходзіць сабе толькі аднаго адпаведніка — Нямеччыну часоў Гітлера зь ягонай расавай тэорыяй.

У сувязі з гэтым паўстае абгрунтаванае пытаньне: ці ня думае Хрушчоў паступова знаёміць і асвойваць сусьветную грамадзкасьць з думкай, што права на сваё ўсябаковае разьвіцьцё і на кіраўніцтва іншымі народамі ды цэлым сьветам маюць народы «вялікія», «прагрэсыўныя» і зь «ясным розумам»? Ці ня думае ён прапанаваць некаторым вялікім «капіталістычным» краінам **часова,** зразумела, (да рэзалюцыі) удзельнічаць у гэтым кіраваньні, ды ўнікаць усялякіх гутарак на нацыянальныя тэмы, бяручы на ўвагу, што нацыянальнае пытаньне на Захадзе ўжо амаль канчаткова вырашанае (у іншым выпадку — гэта спра-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# „Тыдзень паняволеных народаў“, Радыё „Свабода“ і Беларусы

17-га ліпеня сёлета Прэзыдэнт ЗША Айзэнгаўэр выдаў Праклямацыю аб «Тыдні паняволеных народаў» (глядзі «Бацькаўшчына» № 29 (465) зь 19 ліпеня 1959 году, дзе надрукаваны зьмест Кангрэсавай Рэзалюцыі й камэнтар Алеся Крыгі; глядзі «Бацькаўшчына» № 30, (466) з 2 жніўня — артыкул «Вялікі дакумант», дзе зьмешчаныя таксама поўныя тэксты Рэзалюцыі амэрыканскага Кангрэсу і Праклямацыя Прэзыдэнта ЗША Айзэнгаўэра). Рэзалюцыя ўпаважняла Прэзыдэнта ЗША выдаць Праклямацыю, паводля якое трэйці тыдзень ліпеня 1959 году абвяшчаўся «Тыднём паняволеных народаў» і ў якой Прэзыдэнт заклікаў народ Задзіночаных Штатаў Амэрыкі адзначыць гэты тыдзень адпаведнымі ўрачыстасьцямі й дзейнасьцяй. Адначасна Кангрэс упаважніў і прасіў Прэзыдэнта выдаваць падобную праклямацыю кажны год — да таго часу, пакуль для ўсіх паняволеных народаў сьвету ня будзе здабытая свабода й незалежнасьць.

Гэтая Рэзалюцыя была прынятая аднагалосна Сэнатам 6-га ліпеня, і перасланая Юрыдычнаму Кангрэсаваму Камітэту, дзе яна была апрабаваная ды перасланая Палаце Прадстаўнікоў, якая таксама прыняла яе аднагалосна 17-га ліпеня 1959 году.

Слушна называе «Бацькаўшчына» гэты дакумант вялікім [illegible] асабліва [illegible] увагі на змаганьне за вызваленьне, якое вядуць паняволеныя бальшавізмам народы. Гэты дакумант вялікі яшчэ тым, што й хоць пасьля сямёх год, ён пацьвердзіў становішча амэрыканскага народу, выказанае Прэзыдэнтам Айзэнгаўэрам у сваёй перадвыбарчай кампаніі ў 1952 годзе: «Мірнае вызваленьне паняволеных народаў было, ёсьць, і пакуль ня будзе дасягнутым, будзе мэтай замежнай палітыкі ЗША».

І запраўды — гэты дакумант зьяўляецца найбольшым у пасьляваеннай гісторыі змаганьня за свабоду ўсіх народаў, а таму ён заслугоўвае на першарадную ўвагу з боку прэсы, радыя, і ўсіх арганізацыяў, якія вядуць вызвольнае змаганьне.

Мы пастараемся разгледзець, якую ўвагу прысьвяціла гэтаму дакуманту беларуская прэса, радыё й арганізацыі, зь якімі Беларусы супрацоўнічаюць.

Перш за ўсё, належыцца слова прызнаньня для рэдакцыі газэты «Бацькаўшчына», якая, пры сваіх сьціплых эміграцкіх магчымасьцях, здолела ўжо 19 ліпеня — толькі за два дні пасьля апублікаваньня — зьмясьціць асноўны зьмест Рэзалюцыі Амэрыканскага Кангрэсу з адпаведным артыкулам. Тыдзень пазьней, «Бацькаўшчына» зьмясьціла поўны тэкст Рэзалюцыі Кангрэсу і Праклямацыі Прэзыдэнта ЗША. Такім чынам нашы суродзічы на эміграцыі былі хутка й належна паінфармаваныя аб вялікай падзеі ў вызвальным змаганьні.

А цяпер, як-жа былі паінфармаваныя нашыя суродзічы на «Бацькаўшчыне», інфармаваць якіх мае за заданьне, у першую чаргу, Беларуская Рэдакцыя радыя «Свабода»?

27-га ліпеня, Беларуская Рэдакцыя радыя «Свабода», у аддзеле «Навіны дня», пад загалоўкам «СССР — ЗША», у другім абзацы гаворыць: «Перад абедам Хрушчоў і Ніксан каталіся на катэры па Маскве-рацэ, пры гэтым кажны раз, калі яны праяжджалі каля масквічоў, якія купаліся, Хрушчоў прапанаваў Ніксану ,паглядзець на паняволеных’. Калі Хрушчоў паўтарыў свой жарт восьмы раз, Ніксан выказаў гранічна сваё захапленьне прапагандовымі здольнасьцямі Хрушчова».

Запраўды — паведамленьне, як на першы раз, яснае без камэнтароў — асабліва тым на Беларусі!

Трэйцяга жніўня (16 дзён пасьля Праклямацыі) была перададзеная гутарка «Аб рэзалюцыі Амэрыканскага Кангрэсу». Гутарка пачынаецца словамі: «У мінулым тыдні савецкае кіраўніцтва прысьвяціла шмат увагі рэзалюцыі, якая была прынятая аднагалосна абедзьвюма палатамі Кангрэсу Злучаных Штатаў. Гэтая рэзалюцыя абвесьціла трэйці тыдзень ліпеня ,Тыднем паняволеных народаў’».

Вельмі добра, што хоць савецкая прэса прысьвяціла шмат увагі Тыдню паняволеных народаў, бо за 16 дзён абсалютна нічога ня прысьвяціла яму Беларуская Рэдакцыя Радыя «Свабода». Далей Беларуская Рэдакцыя ў сваёй гутарцы адбівае атакі савецкай прэсы й савецкага радыя, якія асуджаюць Амэрыку ў імпэрыялізьме ды ўмешваньні ў нутраныя справы краінаў сацыялістычнага «свабоднага» блёку. Што-ж мог даведацца з гэтай гутаркі беларускі грамадзянін?

22-га жніўня, у «Нататках аб дэклярацыі Прэзыдэнта Айзэнгаўэра» (скрыпт Армянскай Рэдакцыі ў перакладзе сп. Цьвіркі), зноў адбіваюцца абвінавачаньні, зьмешчаныя ў лісьце камуністычнай амэрыканскай пісьменьніцы Марты Додд ў 31-ым нумары часапісу «Огонёк». У канцы-ж, у пяршыню перадаецца зьмест Праклямацыі Прэзыдэнта ЗША, аж 35 дзён пасьля ейнага абвешчаньня! Гэта запраўды сьветчыць аб высокай і якаснай прапагандовай тэхніцы Радыя «Свабода»!

Гэтая самая перадача была паўтораная 26-га жніўня. Вось што маглі даведацца нашы суродзічы, слухаючы Радыё «Свабода»!

Будзем гаварыць проста: з вышэйшага мы бачым, што Беларусы на Бацькаўшчыне з Радыя «Свабода» нічога не даведаліся аб «Тыдні паняволеных народаў» і аб значэньні гэтага вялікага дакуманту;

што Беларусы даведаліся ў першую чаргу аб гэтым дакуманце з савецкай прэсы й радыя ў хвальшывым насьвятленьні;

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Вугорская трагедыя

**ДА 3-ІХ УГОДКАЎ ВУГОРСКАЕ РЭВАЛЮЦЫІ**

«Памажэце Вугоршчыне! Памажэце вугорскаму народу! Помажэце нам, памажэце!..»

«Савецкія жаўнеры, сябры!

Мы ня хочам зноў фашысцкага рэжыму. Мы хочам міру. Мы хочам свабоды. Між нашым вугорскім народам і савецкімі народамі няма ніякіх супярэчнасьцяў. Мы хочам для нашага народу таго. чаго і вы — свабоды і незалежнасьці!..»

Гэтыя, поўныя роспачы, звароты й заклікі вугорскіх змагароў чуў увесь сьвет раніцой чацьвертага лістапада 1956-га году.

Але ўжо па паўдні вугорскае свабоднае радыё змоўкла. Дарэмна мільёны людзей настаўлялі свае апараты на вугорскія хвалі — яны змоўклі. Змоўклі трагічным, злавесным маўчаньнем. А гэтае маўчаньне крычэла, гэтае маўчаньне абвяшчала сьвету, што голас геpаічнага, вольналюбнага вугорскага народу здушаны брутальнай сілай 20-ці савецкіх дывізіяў — танкамі, гарматамі, самалётамі...

Вугоршчына канала, абліваючыся крывёй, пад вусенямі савецкіх танкаў, але не здавалася. Супраць 20-х савецкіх дывізіяў, 5-ці тысяч танкаў, супраць гарматаў і самалётаў выступаў амаль безабаронны вугорскі народ — студэнты, работнікі, жанчыны, падлеткі.

Змаганьне было няроўным, жорсткім, бязлітасным. Вось што паведамлялі дыпляматычныя прадстаўнікі з Будапэшту:

«Савецкія танкі разьбілі цэнтральны шпіталь Чырвонага Крыжа, які быў месцам першай дапамогі раненым. Пазьней гэтыя самыя танкі запалілі дзіцячы шпіталь. Два савецкія бранявікі пачалі страляць у аўтобус Чырвонага Крыжа, які вёз мэдыкамэнты і перавязачныя матар’ялы. Забітыя: шофер, лекар, пяць студэнтаў мэдыцыны і некалькі сёстраў...»

На пратэсты заходніх дыпляматаў савецкае пасольства ў Будапэшце адказала, што яно ня можа нічога зрабіць.

У Нью Ёрку, з ініцыятывы амэрыканскай дэлегацыі. было склікана надзвычайнае паседжаньне Рады Бясьпекі Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, якая войстра асудзіла савецкую інтэрвэнцыю ў Вугоршчыне. Савецкі прадстаўнік выкарыстаў сваё права і наклаў вэта на гэтую пастанову. Гэты свой крок ён цынічна абгрунтоўваў тым, што быццам-бы ў Вугоршчыне адбываўся толькі «пуч» нейкіх «гартыстых, буржуяў і агентаў замежных разьведак». Савецкі прадстаўнік зусім не бянтэжыўся аргумантамі, што супраць жменькі «пучыстых» хіба-ж ня трэба аж 20 дывізіяў, пяці тысяч танкаў, гарматаў і самалётаў.

Савецкі ўрад і прапаганда з бяспрыкладным цынізмам абгрунтоўвалі сваю крывавую інтэрвэнцыю тым, што быццам-бы ўвесь вугорскі народ прасіў іхнай дапамогі і інтэрвэнцыі, і таму савецкі ўрад «працягнуў братэрскую руку вугорскаму народу».

Паўстае лягічнае пытаньне: супраць каго вугорскі народ прасіў бальшавікоў «дапамогі» тады, калі ўвесь народ змагаўся на вуліцах і барыкадах супраць савецкіх танкаў? — Выглядае, што супраць сябе... Абсурд!

Тут спраўджаецца адна непахісная праўда, што каму бальшавікі «працягнуць братэрскую руку», той хутка выцягвае ногі...

Гэтая старая праўда добра ведамая нам, Беларусам. Мы памятаем і будзем памятаць, як у 1918-м годзе бальшавікі крывава здушвалі нашую нацыянальную незалежнасьць, а пазьней — шматлікія паўстаньні беларускага народу.

Гэта яны «працягвалі нам братэрскую руку дапамогі»...

Таму сяньня, ў трэцюю гадавіну здушэньня вугорскай рэвалюцыі, мы, Беларусы, лучымся зь геpаічным вугорскім народам у ягоным змаганьні за свабоду, выказваем глыбокія спачуваньні і надзеі, што з пасеву крыві вырасьце плён — СВАБОДА...

пс

# „Тыдзень паняволеных народаў"...

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

што Беларусы ніколі не даведаліся запраўднага зьместу Рэзалюцыі Амэрыканскага Кангрэсу, бо ані Радыё «Свабода», ані савецкая прэса й радыё поўнасьцяй яе не падалі да ведама.

Тут насоўваецца пытаньне, **чаму Радыё «Свабода» й Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня,** які фінансуе Радыё «Свабода», **былі аднолькава зацікаўленыя з Хрушчовам у тым, каб падсавецкія людзі не даведаліся праўды, што гаварыла Рэзалюцыя Амэрыканскага Кангрэсу,** і што азначала Праклямацыя Прэзыдэнта, якой быў абвешчаны «Тыдзень паняволеных народаў»? Чаму Беларуская Рэдакцыя Радыя «Свабода» фактычна нічога не перадала? На гэтае пытаньне няма каму ў сучасны мамэнт даць адказу, і яго можа ня быць, калі ніхто ня будзе яго дамагацца.

Беларуская Рэдакцыя Радыя «Свабода» (раней яно звалася «Вызваленьне») была створаная ў выніку дамоўленасьці аб практычным супрацоўніцтве Рады Беларускай Народнай Рэспублікі з Амэрыканскім Камітэтам Вызваленьня ад Бальшавізму. Амэрыканскі Камітэт фінансуе радыяперадачы й аплачвае працоўнікаў радыя, у тым ліку й працоўнікоў Беларускай Рэдакцыі, якія там працуюць **з рэкамэндацыі Рады БНР.** Паводля дамоўленасьці, нацыянальныя рэдакцыі маюць «пэўную» свабоду ў дзеяньні, у тым ліку й беларуская — гэта значыць у падрыхтоўцы перадачаў. Рамкі-ж гэтай «пэўнай» свабоды, як цьвердзіць Амэрыканскі Камітэт ў Нью Ёрку, не перашкаджалі-б Беларускай Рэдакцыі перадаць раней Праклямацыю Прэзыдэнта (а Рэалізацыю Кангрэсу? — Рэд.), што зрабілі іншыя сэкцыі, прыкладам расейская, — і шмат больш камэнтароў, артыкулаў і падобных матар'ялаў у сувязі з «Тыднем паняволеных народаў».

У Беларускай Рэдакцыі Радыя «Свабода» — гэта не адзіны паасобны выпадак, а наагул трэба адзначыць суцэльную нізкую якасьць перадачаў, што часамі цэлая праграма ня вартая паперы, на якой яна напісаная. Гэта заўважаецца ад даўжэйшага часу. Цяперашняя лінія Беларускай Рэдакцыі ў перадачах — больш, чымся афіцыйная, непрадрашэнская Амэрыканскага Камітэту. Нам ведама, што там працуюць навет радныя БНР, якія маглі-б справу білянсаваць, каб яны прысьвяцілі крыху больш увагі сваёй працы. Нажаль, іхнае зацікаўленьне абмяжоўваецца адбыцьцём урадавых гадзінаў ды атрыманьнем грошай. Інакш нельга зразумець, бо яны ня былі здольныя напісаць навет аднаго камэнтара з гледзішча беларускага аб «Тыдні паняволеных народаў», а пераклалі армянскі...

І тут я хацеў-бы зьвярнуць увагу кіраўнічых ворганаў Рады БНР на ненармальны стан у Беларускай Рэдакцыі Радыя «Свабода» ды рэкамэндаваць дзеіць хутка й рашуча, гэта значыць зараз-жа запрапанаваць Амэрыканскаму Камітэту правесьці адпаведныя зьмены ў Рэдакцыі і папоўніць яе новымі, сьвежымі сіламі.

Бясспрэчна ,тут нясе адказнасьць ня толькі Беларуская Рэдакцыя, якая ў гэтым выпадку адказная толькі за якасьць і колькасьць перадачаў, але таксама, і ў першую чаргу, Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня. **Затое-ж, што Рэзалюцыя Амэрыканскага Кангрэсу была заблякаваная, нясе адказнасьць толькі Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня, бо пераданьне яе ня было ў ягоным інтарэсе, ці праўдзівей — ня было ў інтарэсе вяліка-дзяржаўніцкай расейскай палітыкі, якую Амэрыканскі Камітэт падтрымоўвае. Гэтым самым, Амэрыканскі Камітэт зусім не зацікаўлены, каб нацыянальныя рэдакцыі належна працавалі.** Аднак у рэдакцыях, дзе працоўнікі пачуваюцца да адказнасьці, і працуюць сумленна, не аглядаючыся на афіцыяльшчыну Амэрыканскага Камітэту, яны робяць добрыя перадачы.

Што Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня ня быў зацікаўлены наагул справай «Тыдня паняволеных народаў», сьветчыць тое, што Праклямацыя Прэзыдэнта ЗША была зьмешчаная ў афіцыйным воргане Амэрыканскага Камітэту «Наше Общее Дело» толькі 21-га верасьня — гэта значыць 65 дзён пазьней. Параўноўваючы гэты факт з тым, што «Бацькаўшчына», ня маючы ніводнага платнага працаўніка, зрабіла гэта на другі дзень, а Амэрыканскі Камітэт, із сваімі вялікімі канцэлярыямі, зь нязьлічонай колькасьцяй сакратарак ды маючы беспасярэднія ліні тэлекамунікацыі з рэдакцыямы ў Мюнхэне, не зрабіў гэта на працягу такога часу, мы прыходзім да перакананьня, што тут была выяўленая ня толькі тэндэнцыйнасьць у праводжаньні палітыкі гэтак званага «непрадрашэнства», а **поўная ігнарацыя волі амэрыканскага народу — волі, выказанай аднагалосна ягонымі прадстаўнікамі: Кангрэсам і Прэзыдэнтам.**

Як я раней зьвяртаў увагу ворганаў ураду БНР, так тут я хачу зьвярнуць увагу Беларуска-Амэрыканскага Задзіночаньня, асабліва старшыні Галоўнай Управы, каб яны зрабілі адпаведныя заходы перад Амэрыканскім Камітэтам у справе аздараўленьня Беларускай Рэдакцыі Радыя «Свабода», ды таксама зьвярнулі ўвагу Кангрэсу ЗША, асабліва ўвагу Юрыдычнага Кангрэсавага Камітэту, Камітэту Прыдзелу Фінансаў, Камітэту Антыамэрыканскай Дзейнасьці ды іншых. якія маглі-б належна высьніць пытаньне, чым кіраваўся Амэрыканскі Камітэт Вызваленьня, затрымоўваючы Праклямацыю Прэзыдэнта ЗША, ды байкатуючы Кангрэсавую Рэзалюцыю, якая ня была перададзеная праз Радыё «Свабода».

**Наагул, Рада БНР і Ліга Вызваленьня Народаў СССР павінны грунтоўна пераглядзець сваe ўзаемадачыненьні з Амэрыканскім Камітэтам,** зрабіць адпаведныя высновы і прыняць адпаведныя пастановы, ды дзеіць у іхным духу. Пакінуць Амэрыканскі Камітэт і супрацоўнічаць з тымі дзейнікамі, якія **выконваюць волю амэрыканскага народу і падтрымоўваюцць прынцып свабоды ўсіх народаў** — калі далейшае супрацоўніцтва з Амэрыканскім Камітэтам выявіцца кампрамітуючым з прычыны ягонае неапраўднае тэндэнцыйнасьці на **ка**рысьць расейскага вяліка-дзяржаўніцтва.

Нью Ёрк, кастрычнік 1959 г.

**А. Груда**

**ХТО ЯШЧЭ НЕ ПАДПІСАЎСЯ НА ЗБОРНІК ПАЭЗІІ МАКСІМА БАГДАНОВІЧА, ПАВІНЕН ЗРАБІЦЬ ГЭТА БЕЗАДКЛАДНА!**

**ЦАНА АДНАГО ЭГЗЭМПЛЯРА ЗБОРНІКА — 3 ам. даляры.**

# Новыя павевы...

(Заканчэньне зь 1-ай бачыны)

ва ўсяго пары наступных год) і што далейшае парушаньне гэтай праблемы можа шкодзіць, фактычна, толькі аднэй (апошняй) расейска-бальшавіцкай імпэрыі? Апрача таго, нацыяналізм, напрыклад у арабскіх краінах, выявіўся найбольшым ворагам камунізму. Што тычыцца гіпатэзы аб праве «выбранага» народу на кіраўніцтва сьветам, дык яна мае сваё канкрэтнае пацьверджаньне: расейская мова, напрыклад, ужо прызначаная Крамлём мовай сусьветнай сацыялістычнай дзяржавы.

Такім чынам, закон джунглі зноў пагражае распасьцерці сваю ўладу над сьветам. На вялікі жаль, на Захадзе ёсьць нямала бяскрытычных людзей, якія за хітра падтасоўваныя камуністычныя прапагандовыя пасуленьні згодныя ахвяраваць найбольш жыцьцёважнымі маральнымі прынцыпамі. Бегаючы ўздагон за сваімі ўласнымі жаданьнямі знайсьці, напрыклад, разыходжаньні паміж СССР і Кітаем, яны забываюцца, што Мао Цзэ Дуна й Хрушчова больш злучае, чымся дзеліць, і што, напрыклад, цяперашняе стаўленьне Хрушчова да індыйска-кітайскага канфлікту, як і сам канфлікт, маглі быць згары заплянаваныя і ўзгодненыя, каб дасягнуць больш важных мэтаў.

Будзем спадзявацца, што Захад хутка зможа выкрыць запраўдны сэнс і мэту новай бальшавіцкай прапагандовай афэнзывы і прыме адпаведныя контразахады.

**Ю. Дубовік**

# „Жыцьё стала лепш..."

На бачынах «Б-ны» мы звычайна спыняемся больш падрабязна на духовай эксплятацыі, культурным і палітычным паняволеньні, што практыкуюць расейска-бальшавіцкія акупанты на Беларусі. Фактаў нацыянальнай дыскрымінацыі, грубой русыфікацыі — хоць адбаўляй. Гэтым фактам бальшавіцкі прапагандовы апарат можа супрацьставіць толькі пустаслоўныя заявы аб «роўнасьці», «культурным росквіце» ды навет «сувэрэннасьці» беларускага народу; мы сказалі — пустаслоўныя заявы, бо іхныя «абгрунтаваньні» ня вытрымоўваюць у цэлым найменшай крытыкі.

Сяньня мы хацелі-б падзяліцца з нашымі чытачамі некаторымі весткамі, якія характарызуюць іншы аспэкт бальшавіцкага панаваньня ў нас на Бацькаўшчыне. Падзяліцца весткамі — і думкамі.

Гэта факт, што пасьля сьмерці Сталіна фізычны тэрор у Савецкім Саюзе у тым ліку й на Беларусі, паслабеў. Ня трэба толькі рабіць сабе ілюзіяў — наважвальным дзейнікам у гэтым выпадку быў не раптоўны прыплыў гуманнасьці партыйнага кіраўніцтва, а цэлы шэраг прычынаў, якія прымусілі гэтае кіраўніцтва на ўступкі. Як-бы там ні было, але Хрушчоў цяпер спрытна выкарыстоўвае гэтыя ўступкі дзеля пашырэньня свае папулярнасьці.

Калі верыць аб'ектыўным крыніцам — ці прынамся крыніцам, што намагаюцца быць аб'ектыўнымі — і ў матар'яльным дачыненьні адчуваюцца «пэўныя» зьмены на лепшае. Зразумела, бальшавіцкае прэсы ўлучна з КГБ-ўскім лістком «За вяртаньне на радзіму» мы тут на ўвагу не бярэм. Паводля гэтае прэсы, Савецкі Саюз быў і застаецца раем для працоўных — з тэй толькі розьніцай, што ён з кажным днём стаецца штораз больш і больш райскім...

Ня гледзячы на ўсе намаганьні бальшавікоў, падзеі апошніх гадоў зрабілі Зялезную Заслону не такой шчыльнай, якой яна была раней. Што тычыцца Беларусі, дык у гэтым дачыненьні асабліва значэньне меў для яе г. зв. «польскі кастрычнік» 1956 году й ягоныя вынікі. У першую чаргу таму, што Польшча мяжуе зь Беларусяй. Але ня толькі таму. Ня трэба забывацца, што ў Польшчы жывуць сотні тысяч Беларусаў — кампактная маса на Беласточчыне, і іншыя сотні тысяч, расьсеяныя па ўсёй краіне. Шмат зь іх, карыстаючыся тагачаснай нагодай, выехалі зь Беларусі пасьля вайны, выдаючы сябе за Палякаў. І ўсё гэта з адзінай мэтай — як найдалей ад беспасярэдняй апекі бальшавіцкіх «вызвольнікаў»...

Пасьля 1956 году жыцьцё ў Польшчы палягчэла. Нягледзячы на тое, што партыя намагаецца там ізноў «закруціць гайку», польскія грамадзяне карыстаюцца ўсё яшчэ куды большымі правамі, чымся грамадзяне іншых падкамуністычных краінаў, не гаворачы ўжо аб Савецкім Саюзе. Дзесяткі тысяч Палякаў ці польскіх грамадзян наведваюць заходнія краіны, дзе шмат-хто зь іх мае сваякоў. Але мала таго — польскія грамадзяне маюць — хоць і абмежаваныя — магчымасьці езьдзіць у Савецкі Саюз. Наведваюць Беларусь і некаторыя нашыя суродзічы, што прыехалі ў Польшчу пасьля вайны. Ад іх, зразумела, праўду схаваць цяжка. А дзеля таго, што паміж Польшчай і вольным сьветам цэнзура не такая войстрая, як раней, эміграцыя мае магчымасьць таксама даведацца аб запраўдным стане рэчаў.

Нядаўна наш сябра А. атрымаў ліст ад свайго блізкага сваяка з Польшчы. Жонка гэтага сваяка сёлета ўлетку наведала сваіх родных у БССР, недалёка ад Маладэчна. Даведаўшыся пра гэта, А. папрасіў напісаць, ці жыве й **як** жыве адна знаёмая яму жанчына з тэй-жа вёскі, што й жонка сваяка. Вось які адказ атрымаў А. — цытуем:

**«Ейны муж працуе столярам, а яна — у саўгасе. Жывуць добра... Яна ўлетку працуе на полі, а ўзімку ходзіць на нарыхтоўку лесу. Маюць карову. На корм для каровы даюць пару сотак (гэктара — У. Н.) іржышча, а рэшту вольнага часу носяць траву зь лесу. Па хлеб, дык няраз ідуць у Маладэчна (прыблізна 27 км. — У. Н.) пехатой, бо шкада 6 рублёў на аўтабус...»**

І далей:

**«Там нашы людзі такія дзіўныя — цяпер навет старыя кабеты пачалі піць гарэлку... Як едзеш у горад, дык падарозе сядзяць людзі ў рове боса, у кажуху, у шапцы на галаве, хоць было лета. Гэта яны адпачываюць, нясучы хлеб і іншыя прадукты з гораду...»**

Камэнтары, хіба, тут лішнія. Аб верагоднасьці гэтых вестак сумлявацца ніяк не даводзіцца: чалавек, які піша блізкаму сваяку аб супольных знаёмых, ня мае ніякіх падставаў хлусіць ці перабольшваць. Дарэчы, аўтару гэтых радкоў ведамыя й прозьвішчы прыгаданых людзей, і назовы мясцовасьцяў. Чаму мы іх тут не падаем — тлумачыць, хіба, ня трэба.

Адзначым яшчэ адну цікавую дэталь: у раёне, які наведала прыгаданая намі жанчына, няма ўжо ніводнага калгасу — існуюць толькі саўгасы. Як ведама, гэтае мерапрыемства партыі мае быць наступным крокам да камунізму... У запраўднасьці-ж — гэта ўдасканалены способ эканамічнай эксплятацыі народу дзяржавай.

Мы, зразумела, ня хочам сказаць, што беларускае працоўнае сялянства ўсюды жыве **так** блага. Але ці апісваны намі раён зьяўляецца выключэньнем, **ці**... наадварот?

Проста балюча пасьля гэтага чытаць словы, пад якімі з волі партыі стаяць подпісы, на нашу думку сумленных людзей — людзей, як прыкладам Рыгор Шырма. У газэтцы «За вяртаньне... іх прымушаюць падпісвацца пад хлусьнёй аб «сьветлай долі» насельніцтва Беларусі пад бальшавіцкім панаваньнем. Але факты — упартая рэч...

**Ул. Нямановіч**

П. УРБАН 2)

# Да пытаньня аб савецкай нацыянальнай палітыцы*)

Аднак, гэтая іхняя «незалежнасьць» ад РСФСР ня мела ніякага практычнага значэньня. На працягу 1919-22 гадоў ім былі накінутыя гэтак званыя **вайсковы, вайскова-эканамічны й дыпляматычны** саюзы з РСФСР, якія перадалі ўраду апншняй вайсковую, эканамічную і вонкавую палітыку ад імя ўсяго гэтага комплексу «сацыялістычных» дзяржаваў.

Гэты прынцып цеснай фэдэрацыі, або як называюць цяпер, прынцып «аўтанамізацыі», бальшавікі імкнуліся ажыцьцявіць таксама ў 1922 годзе падчас новых спробаў канчальна разьвязаць пытаньне аб дзяржаўным ладзе Савецкай Расеі. Новы праект тэзісаў аб аб'яднаньні савецкіх рэспублікаў быў распрацаваны Сталінам і прыняты адмысловай камісіяй ЦКРКП (б.) У рэзалюцыі гэтай камісіі гаварылася: «Прызнаць мэтазгодным падпісаньне ўмовы паміж савецкімі рэспублікамі Украіны, Беларусі, Азэрбайджану, Грузіі, Арменіі і РСФСР аб фармальным уступленьні першых у склад РСФСР, пакінуўшы пытаньне аб Бухары, Карэзьме і ДБП адкрытым, і абмяжоўваючыся прыняцьцем умовы зь імі ў мытнай справе, вонкавым гандлі ды замежных і вайсковых справах».[16])

Аднак гэты прект ЦК РКП(б) стварэньня адзінай Расейскай Савецкай Фэдэратыўнай Сацыялістычнай Рэспублікі быў адкінуты спачатку ЦК КП Грузіі[17]) і Беларусі,[18]) а потым і ЦК КП Украіны,[19]) якія дамагаліся стварэньня саюзных дзяржаваў або саюзу незалежных савецкіх рэспублік. Пасьля гэтага быў распрацаваны новы праект стварэньня Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік (СССР), які і быў **прыняты 30** сьнежаня 1922 году на Першым Усесаюзным зьезьдзе Саветаў. Так была створаная, крыху іншага характару, чымся прапанаваная РСФСР, новая савецкая цэнтралізаваная дзяржава зь ягонымі вышэйшымі ворганамі ў выглядзе саюзных Цэнтральнага Выканаўчага Камітэту й Савету Народных Камісараў і саюзным ворганам Дзяржаўнага Палітычнага Ўпраўленьня (ОГПУ), перайменаванага пазьней у НКВД. Адначасна былі зьлітыя таксама народныя камісарыяты замежных справаў, унутранага гандлю, ваенна-морскіх справаў, пошты і тэлеграфу ў адзіныя агульна-саюзныя наркаматы, падпарадкаваўшы сабе таксама рэспубліканскія наркаматы фінансаў, харчовага забясьпячэньня, працы, работніцка-сялянскай інспэкцыі й вышэйшых саветаў народнай гаспадаркі дырэктывам існуючых саюзных наркаматаў і пастановам саюзнага ўраду. Незалежнымі ў рэспубліках заставаліся толькі камісарыяты ўнутраных справаў, земляробства, юстыцыі, асьветы, аховы здароўя і сацыяльнага забясьпячэньня,[20]) якія ў сваю чаргу таксама падлягалі ўсесаюзнаму кантролю і дырэктывам цэнтральнага ўраду і з часам зусім страцілі сваё значэньне.

Такім чынам, бальшавіцкі прынцып палітычнага самавызначэньня народаў і ў выглядзе Саюзу Савецкіх Сацыялістычных Рэспублік не знайшоў свайго канчатковага вырашэньня нацыянальнага пытаньня. Народы былой Расейскай Імпэрыі ізноў апынуліся ў палітычнай залежнасьці ад новага савецкага дзяржаўнага комплексу, «перадаўшы» ўсе галіны свайго нацыянальнага жыцьця ў распараджаньне цэнтральнага ўраду. Гэтая палітычная залежнасьць ад цэнтру сталася асабліва адчувальнай ад пачатку 1930-ых гадоў, ад часу ўстанаўленьня дыктатуры Сталіна й нарастаньня сталінскай рэакцыі наагул, калі й іхнае гаспадарча-культурнае жыцьцё вырашалася адным росчыркам пяра дыктатара. Тут трэба адзначыць, што ў 1944 годзе ў нацыянальных рэспубліках СССР былі створаныя асобныя рэспубліканскія міністэрствы замежных справаў, надаючы такім чынам нацыянальным рэспублікам выгляд незалежных дзяржаваў з правам вядзеньня незалежнай вонкавай палітыкі й навет стварэньня ўласных арміяў. **У** 1956 годзе наступіла такое шашырэньне правоў саюзных рэспублік у судаўніцтве і нутраной гаспадарцы. Аднак, таксама як першае зьявішча было абумоўленае новымі зьменамі на міжнароднай арэне, а менавіта імкненьнем партыі атрымаць больш галасоў у міжнароднай Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў, але толькі ня прынцыпамі савецкай нацыянальнай палітыкі, — так і апошняе пашырэньне правоў саюзных рэспублік было толькі вынікам палітыкі агульнай дэцэнралізацыі ў савецкім судзе і гаспадарчым кіраўніцтве. Як ведама, і дасюль палітычнае жыцьцё савецкіх нацыянальных рэспубліканў цалкам залежыць ад агульнай палітыкі Савецкага Саюзу, а іхная гаспадарка ад агульнага плянваньня народнай гаспадаркі СССР.

Ужо гэтая поўная палітычная залежнасьць падсавецкіх народаў, якая выклікае ў першую чаргу іхную эканамічную эксплятацыю, павінанна вызначыць іхныя дачыненьні да прынцыпаў савецкай нацыянальнай палітыкі і наагул да цэнтральнага савецкаг ўраду, які ў шмат·чым супадае з урадам РСФСР, калі зь ім яшчэ фармальна і ня зьліваецца цалком. Але нацыянальная свабода, наагул нацыянальная праблема ня абумоўліваецца толькі палітычнай залежнасьцяй, хоць апошняя і зьяўляецца найгалаўнейшым фактарам. Вялізарную ролю адыгрывае тут таксама пытаньне культурнага разьвіцьця, пастаноўка пытаньня аб гістарычных лёсах і значэньні падсавецкіх народаў і пытаньне іхных узаемадачыненьняў наагул. Гэтай праблеме мы прысьвецім больш увагі, каб на прыкладзе паказаць нацыянальную няроўнасьць і навет нацыянальную дыскрымінацыю, якая існуе ў СССР.

У першыя гады існаваньня Савецкага Саюзу, калі гэты новы дзяржаўны твор перажываў нутраную і вонкава-палітычную слабасьць, тут яшчэ існавала адносная свабода культурнага разьвіцьця падсавецкіх народаў, якія толькі-што страцілі сваю палітычную незалежнасьць. Яны тварылі свае нацыянальныя навуковыя ўстановы, разьвівалі свой нацыянальны тэатр, літаратуру і гістарыяграфію, дамагаючыся ад партыі яшчэ большай свабоды дзеля гэтага разьвіцьця і няўмешваньня цэнтру ў нутраныя справы рэспублік, асабліва ў галіне іхнага культурнага будаўніцтва. Гэтаму ў пэўнай меры спрыялі пастановы Дзесятага зьезду РКП(б) ў нацыянальным пытаньні, якія абвесьцілі праявы вялікадзяржаўніцкага расейскага шавінізму першай небясьпекай для СССР і гэтак званага сацыялістычнага будаўніцтва. Аднак гэтае палажэньне радыкальна зьмяняецца на пераломе 1920—30 гадоў з на-

*) Зь недагляду ў папярэднім тэксьце ўкраліся наступныя памылкі. На бач. 2, у 3 кал. 2-гі абзац замест «Пра гэта адкрыта гаварыў Сталін, адзначаючы ў заўвагах да свайго артыкулу «Супраць фэдэралізму», напісаных у сакавіку 1917 году...» трэба чытаць: «Пра гэта адкрыта гаварыў у 1924 годзе Сталін, адзначаючы ў заўвагах да свайго артыкулу «Супраць фэдэралізму». напісанага ў сакавіку 1917 году...» На бач. 3, у 1 кал. 1-шы абзац замест «Выступаючы ў 1918 годзе на красавіковай канфэрэнцыі...» трэба чытаць: «Выступаючы ў 1917 годзе на красавіковай канфэрэнцыі...»

# Тэатральны сэзон у БССР

Звычайна адкрыцьцё тэатральнага сэзону, паводля даўных традыцыяў, усюды зьяўляецца вялікай урачыстасьцяй, да якое старанна рыхтуюцца, каб найлепш і найвыгадней паказаць твар мастацкай установы, яе творчы кірунак, здольнасьці выканаўцаў і г. д. Як правіла, тут ідзе аб паказ новай, арыгінальнай п'есы, якая мусіць даць загаловак усёй тэатральнай дзейнасьці ў дадзеным сэзоне. Ясна, што для нацыянальных сцэнаў адкрыцьцё сэзону беспасярэдня вяжацца з паказам сваёй нацыянальнай драматургіі, гэта ганаровы абавязак тэатру перад грамадзкасьцяй.

Калі з такога гледзішча падыйсьці да новага тэатральнага сэзону БССР (1959-1960), дык, навет, пабочнага чалавека зьдзівіць палітыка партыйна-савецкага кіраўніцтва.

Дзяржаўны Беларускі тэатр опэры й балету адкрыў сэзон запраўды прэм'ерай, навінкай на беларускай сцэне — опэрай «Дзіцё радасьці». Але дарэмна чакалі-б мы, што гэты твор належыць свайму беларускаму кампазытару. Не, — ім ёсьць маскоўскі аўтар, далёка не першарадны — Карчмароў.

Што датычыць мастацкай вартасьці самой опэры, дык і паводля савецкай крытыкі, яна вельмі пасярэдняя, мае многа заганаў і слабых, бледных, пустых месцаў, якіх кампазытар зусім ня мог перамагчы. Няведаючы савецкай сыстэмы можна было-б папытацца: чаму да ўрачыстага адкрыцьця сэзону такі ведамы, кваліфікаваны й здольны тэатр узяў такі малаякасны твор? Справа тлумачыцца тым, што «Дзіцё радасьці» на кітайскі прапагандовы сюжэт і прысьвечана 10-ай гадавіне перамогі камунізму ў Кітаі, на сьвяткаваньне якое паляцеў сам Хрушчоў. Кіраўніцтва тэатру опэры й балету, а можа й Міністэрства культуры БССР хацела гэтым спэктаклем **набыць палітычны капітал.** Перад гэтай мэтай палі ахвярай і беларускасьць і мастацкасьць. Рэч звычайная ў Савецкім Саюзе. Трэба адцеміць, што начальства не пралічылася ў сваіх мэркантыльных спадзяваньнях. Адразу-ж пасьля прэм'еры амбасада Кітайскай Рэспублікі ў Маскве выслала тэатру тэлеграму, выказваючы ўдзячнасьць, прывітаньні й найлепшыя пажаданьні. Можна думаць, што за гэтым ідзе й штосьці больш істотнае, прыемнае й адчувальнае — узнагароды...

Найлепшы драматычны тэатр БССР — акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы — падрыхтаваў да адкрыцьця свайго сэзону аж дзьве п'есы: «Вось я іду» Бярозкі й «Дабракі» Зорына. Якасьці гэтых твораў мы ня ведаем, аднак ізноў-жа ня думаем, каб яна была высокай, бо **сучасная савецкая** п'еса яшчэ ніколі ня была запраўды мастацкай. Нас тут хвалюе тое, што за гэтае сачавічнае варыва расейскіх аўтараў савецкае кіраўніцтва БССР прадае нацыянальны тэатр і драматургію, нацыянальны гонар і традыцыі вялікага Купалы, імя якога носіць тэатр, і наагул тэатральнае сьвята ператварае ў зьдзек над мастацтвам.

Расейскі тэатр БССР паставіў на адкрыцьцё п'есу расейскага драматурга Раманава «Подзвіг (!) становіцца вядомым». Зразумела, ад расейскага тэатру няма чаго асаблівага чакаць, хаця простая ветлівасьць вымагала-б у дзень тэатральнага сьвята даць спэктакль зь беларускай драматургіі, з матар'ялаў тае рэспублікі, у якой знаходзіцца й працуе Расейскі тэатр БССР. Гэта ўсё паказальна, як і тое новае «беларускае» слова «подзвіг», якога ў БССР не асьмеліліся перакласьці на свой беларускі лад.

Сталічны Тэатр юнага гледача, які на Ўсесаюзным фэстывалю атрымаў падзяку за «нацыянальную лінію», пэўна з прыкладу сваіх старэйшых сяброў адчыніў сэзон п'есай расейскіх аўтараў Зака й Кузьняцова: «Учора ў Касаткіне». Водгукі на гэты спэктакль вельмі стрыманыя й асьцярожныя.

Беларуская Дзяржаўная Філярмонія ўрачыста пачала свой новы сэзон сымфанічным канцэртам, дзе выконваліся 11-ая сымфонія — «1905 год» — Шастаковіча й канцэрт для фартапіяна з аркестрам Метнера. Салістым выступіў маскоўскі піяністы Я. Зак. Менская філярмонія даўно ўжо трымаецца расейскага кірунку, не пасаромілася яна і ў сьвяточны дзень адкрыцьця замазаць свой беларускі шыльд.

Дайшлі да нас весткі й з правінцыі. І там пануе атмасфэра «старэйшага брата». Магілеўскі й Гомельскі тэатры ставяць «Імем рэвалюцыі» Шатрова, Горадзенскі — «Учора ў Касаткіне» Зака й Кузьняцова, Берасьцейскі — «Дванаццатая ноч» Арбузава.

Бедныя беларускія драматургі. Яны жывуць і ў сталіцы і ў вобласьцях, штосьці пішуць, кудысьці ймкнуцца, пэўна-ж і на тэатральныя сцэны, але, падобна, як і іхным братом кампазытарам, даводзіцца «чакаць ля мора пагоды».

А вось возьмем рэспубліканскія газэты. Там роіцца ад дакораў і ўпікаў адносна пасыўнасьці кіраўніцтва ў галіне стварэньня нацыянальнага рэпэртуару. І хоць сыпяцца цэлыя тырады заклапочанасьці нацыянальным беларускім мастацтвам, у сутнасьці нічога ня робіцца. І гэтак кажны год, кажны сэзон. Словы, словы й словы. А практыка дае зусім што іншае. Яна паказвае нам запраўдны твар партыйна-савецкай русыфікацыйнай палітыкі. Рэпэртуар новага сэзону тэатраў БССР — гэта найлепшы сьветка і доказ нахабнасьці й цынізму паняцьця сувэрэннасьці БССР, цаны кніжкам, брашурам, артыкулам і красамоўным выступам на тэму «Фармаваньне й разьвіцьцё беларускай сацыялістычнай нацыі».

**Мікола Куліковіч**

З радыёвай хвалі «Свабода»

# Пераліваньне з пустога ў парожнае

17-га кастрычніка «Зьвязда» зьмясьціла паведамленьне, што ў гэтым годзе ў БССР было прачытана больш за 200 тысяч лекцыяў. Тэмы гэтых лекцыяў — сямігадовы плян, пастановы 21-га зьезду ЦК КПСС, падарожжа Хрушчова па Амэрыцы.

У сувязі з гэтым узьнікаюць паважныя й сумлеўныя думкі. Бальшавіцкая прапаганда ганарыцца, што ў Беларусі зьліквідавана няпісьменнасьць і што працоўныя палітычна разьвітыя й выхаваныя ў камуністычным духу. Такім чынам, лягічна думаючы, можна прыпушчаць, што кажны грамадзянін можа чытаць газэты, даведацца аб усіх гэтых падзеях і самастойна ў іх разабрацца. Дык нашто-ж тады гэтая шматлікая армія дармаедаў-агітатараў, якія лішні раз растлумачваюць працоўным тое, што на розныя лады ў паводцы артыкулаў і радыёвых передачаў паўтарае савецкая прапаганда? Гэта — пераліваньне з пустога ў парожнае...

А цяпер крыху матэматыкі на ўзроўні пачатковай школы. Прыпусьцім, што кажная лекцыя трывала толькі адну гадзіну, гэта значыць, што 200 тысяч гадзін гаварылі агітатары. Далей прыпусьцім, што на кажнай лекцыі было толькі па 50 слухачоў. Калі памножым 200 тысяч на 50, дык атрымаем 10 мільёнаў гадзін, або мільён 250 тысяч працадзён, змарнаваных на агітацыю.

І гэта толькі за 9 месяцаў і толькі ў ваднэй Беларусі! Калі-б мы пачалі рабіць вылічэньні ўва ўсесаюзным маштабе — атрымаліся-б астранамічныя лікі працоўных гадзін. А што-б атрымалася, калі-б усё гэта ды памножыць яшчэ на 42 гады бальшавіцкай улады?

Колькі-ж часу, энэргіі й грошай марнуецца ў Савецкім Саюзе на ілжывую, нудную, непатрэбную працоўным людзям прапаганду? І што-ж за гэта ўсё можна было зрабіць дзеля павышэньня дабрабыту грамадзтва? Але гэта, аднак, найменш цікавіць бальшавіцкіх верхаводаў. Яны вымагаюць ад грамадзтва як найбольш працаваць, найбольш даваць дзяржаве, найбольш ашчаджаць дзяржаўныя сродкі, а самі злачынна выкідаюць мільярды народных грошай ў балота прапагандовай хлусьні й нуды.

Цяпер некалькі слоў аб якасьці бальшавіцкай прапаганды й як да яе ставіцца грамадзтва. Думаем, што гэта найлепш адлюстроўвае 81-шы нумар «Літаратуры і мастацтва». Там зьмешчаны ліст у рэдакцыю пад загалоўкам: «Зачараванае кола». Аўтар ліста пытаецца ў кальпартэра, чаму не прадаюцца «Літаратура і мастацтва», «Полымя», ды іншыя часапісы, і чуе такі адказ:

«Не бяруць, вельмі дарагія. Бачыце, газэты ў нас купляюць толькі дзеля таго, каб у іх загарнуць селядцы ды мыла. Дык навошта-ж чалавеку плаціць за газэту па 40 капеяк, калі ён можа купіць газэту такога-ж памеру за 20?..»

Вось тут зялезная лёгіка й яскравае адлюстраваньне савецкай рэчаіснасьці. Савецкія газэты людзі выкарыстоўваюць толькі як тару да селядцоў, мыла й да іншых патрэбаў... Але не дзеля тых мэтаў, якім яны мусілі-б служыць — пашырэньню асьветы й культуры ды аб'ектыўнай інфармацыі.

Таму, чытаючы ганарлівую інфармацыю аб гэтых 200-ах тысячах лекцыяў, мы з сумам думаем: колькі-ж народнага дабра злачынна ўтапталі ў балота бальшавіцкія верхаводы ў Беларусі.

# „Жыце Ґосподарчэ“ аб крызысах на Захадзе

Адным з найбольш важных дасягненьняў «польскага Кастрычніка» трэба ўважаць тую свабоду, якая цяпер існуе ў Польшчы для навуковай працы. Дзякуючы гэтай свабодзе, польскія эканамістыя могуць падрабязна аналізаваць і крытыкаваць шматлікія догмы марксысцкай эканомікі, якія перад гэтым уважаліся непарушнымі. Супастаўленьне марксысцкай тэорыі з рэальнымі фактамі пераканала польскіх эканамістых у тым, што марксысцкая эканамічная тэорыя павінна быць карэнна перагледжаная.

Галоўныя аргумэнты польскіх эканамістых былі нядаўна апублікаваныя ў эканамічным тыднёвіку «Жыце Ґосподарчэ». «Жыце Ґосподарчэ» адзначае, што ад травеня гэтага году «амэрыканская эканоміка йзноў уступіла ў фазу ўздыму. Спад 1958 году й пачатку 1959 году зьмяніўся новым пэрыядам эканамічнага «росквіту» — тым, што самі амэрыканцы называюць «проспэрыты».

«Жыце Господарчэ» прыгадвае аб тым, што пасьля Другой Сусьветнай вайны амэрыканская эканоміка прайшла тры такія пэрыяды заняпаду. Тым ня менш цьверджаньні клясыкаў марксызму, што такія пэрыяды павінны прывесьці да вялікага эканамічнага крызысу, ніколі не спраўджаліся.

Сьцьвердзіўшы гэты факт, «Жыце Ґосподарчэ» працягвае:

«Некаторыя эканамістыя-марксыстыя, якія вывучаюць сучасную капіталістычную сыстэму, уважаюць, што клясычныя фазы эканамічнага цыклю няўхільныя да таго часу, пакуль існуе капіталістычная сыстэма вытворчасьці й распадзелу. Таму, кажны раз, калі прадбачваўся спад у амэрыканскай эканоміцы, яны прадказвалі, што гэты новы спад няўхільна прывядзе да эканамічнага крызысу. Гэтак было і ў мінулым годзе, і эканамістыя-марксыстыя зноў заяўлялі, што гэтым разам маем справу з пачаткам запраўднай дэпрэсіі».

Пасьля гэтага даволі выразнага намёку на прадказваньні Варгі аб няўхільнай гібелі капіталізму, «Жыце Ґосподарчэ» піша:

«Гэтыя прадказваньні адпавядалі прынятым догмам марксысцкай тэорыі. Але факты — упартая рэч. Рэчаіснасьць паказала, што тэорыя была няправільная. Таму трэба было-б вывучыць пытаньне аб тым, чаму тэарэтычна апраўданыя прадказаньні кажны раз выяўляюцца памылковымі».

Аналізуючы гэтае пытаньне, «Жыце Ґосподарчэ» прыходзіць да высвнаву, што цяперашняя капіталістычная сыстэма моцна адрозьніваецца ад клясычнага паняцьця капіталізму. Але гэта яшчэ ня ўсё. «Капіталістычная дзяржава, — піша «Жыце Ґосподарчэ», — выпрацавала розныя новыя мэтады эканамічнага пляваньня. Гэтыя новыя мэтады дазваляюць пасьпяхова змагацца з вынікамі эканамічнага спаду й недапушчаць да ператварэньня яго ў запраўдны эканамічны крызыс. «Жыце Ґосподарчэ» спыняецца пераважна на адным з гэтых мэтадаў — найбольш эфэктоўным. Польскі тыднёвік піша: «Найбольш дзейсным з гэтых мэтадаў было ўмяшаньне ў эканамічнае жыцьцё з боку капіталістычнае дзяржавы. Стымулюючы попыт і павялічваючы ўсімі сродкамі рост капіталаўкладаў, дзяржава сваім умяшаньнем імкнецца ўнікнуць вялікіх эканамічных крызысаў... Эканамічная тэорыя Кэйнса, упяршыню рэалізаваная Рузвэльтам у часе пэрыяду гэтак званага «Нью Дыл», сталася магутнай зброяй у руках капіталістычнай дзяржавы.»

«Жыце Ґосподарчэ» цьвердзіць далей, што пасьпяховае выкарыстоўваньне ўмяшаньня дзяржавы дзеля ўнікненьня вялікіх эканамічных крызысаў яшчэ не даказвае, што гэты мэтад будзе апраўдваць сябе заўсёды і ў будучыні. Вялікі эканамічны крызыс ўсё-ткі можа раней ці пазьней адбыцца. Але з другога боку эканамістыя-марксыстыя павінны быць больш асьцярожныя й не займацца змрочнымі прадказваньнямі заўсёды тады, калі пачынаецца эканамічны спад».

«Жыце Ґосподарчэ» канчае свой аналіз наступнымі словамі:

«Нашы веды аб капіталістычнай сыстэме яшчэ недастатковыя... Яны павінны быць дапоўненыя ўсімі сучаснымі навуковымі дадзенымі... Таму, здавалася-б, замест таго, каб з ўпэўненасьцяй чакаць, што надыйдзе запраўдны эканамічны крызыс, мы павінны старанна вывучыць сучасную капіталістычную сыстэму. У прыватнасьці, трэба зьвярнуць асаблівую ўвагу на эфэктоўнасьць умяшаньня дзяржавы ў эканамічнае жыцьцё краіны. Пасьля таго, як дасьледваньні гэтага пытаньня будуць скончаныя й іхныя вынікі ўлучаныя ў тэорыю эканамічных цыкляў, мы здолеем ацэньваць кажны новы спад куды больш удумліва, чымся гэта было ў мінулым».

**Р. С.**

растаньнем агульнай сталінскай рэакцыі. Зьяўляецца новы тэзіс аб «буржуазным нацыяналізьме, як першай небясьпецы сацыялістычнага будаўніцтва». Гэта прыводзіць ня толькі да перасьледу разьвіцьця нацыянальнай культуры ў савецкіх нацыянальных рэспубліках, але й да простай ліквідацыі яе, падменьваючы яе гэтак званай «савецкай культурай — нацыянальнай паводля формы і сацыялістычнай паводля зьместу», а таксама да ліквідацыі ня толькі вядучых кадраў нацыянальных навукоўцаў і інтэлігенцыі наагул, але і нацыянальна сьведамага элемэнту. Гэтыя рэпрэсіі асабліва пачалі адчувацца ў культурным жыцьці рэспублікаў у пэрыяд агульнай яжоўскай чысткі 1936—38 гадоў, якая зьмяла сотні тысяч жыцьцяў. Праводзіцца таксама рэформа нацыянальных моваў і пісьма, як прыкладам, праведзеная ў 1933 годзе рэформа беларускай мовы й правапісу, што набліжала яе да расейскай мовы, або пераход да альфабэту, распрацаванага на базе расейскай графікі, у сярэдняазіяцкіх рэспубліках. Адначасова ў савецкай гістарычнай навуцы, якая цяпер падмяніла гістарычныя навукі ў нацыянальных рэспубліках, пачала вызначацца канцэпцыя аб выключнай гістарычнай ролі расейскага народу й Расеі ў гісторыі падсавецкіх народаў. Прыгадаем толькі некаторыя вынікі такой нацыянальнай палітыкі — ліквідацыя ў 1941 годзе Немцаў Паволжа, а ў 1943—44 гадох — Татар Крыму і цэлага шэрагу народаў Паўночанага Каўказу.

24-га травеня 1945 году, у Маскве Сталін падняў тост за «вялікі расейскі народ і ягоны ясны розум». Затым прыйшла жданаўшчына, якая пачала эпоху адкрытай нацыянальнай дыскрымінацыі ў СССР і адкрытых праяваў расейскага шавінізму. Адначасна, паўторна былі асуджаныя найменшыя праявы «буржуазнага нацыяналізму» у падсавецкіх нацыянальных рэспубліках; у іх пачаўся яшчэ большы нацыянальны прыгнёт. У сувязі з гэтым новым курсам нацыянальнай палітыкі партыі, былі таксама вызначаныя новыя канцэпцыі аб гістарычнай «выбранасьці» паасобных нацыяў, ў дадзеным выпадку — расейскага народу, і аб гэтак званай савецкай сацыялістычнай культуры. Першая зь іх, у супярэчнасьці з папярэднімі цьверджаньнямі аб роўнасьці ўсіх нацыяў і народаў перад гісторыяй, цяпер пачала гаварыць наступнае: «Бальшавіцкі інтэрнацыяналізм не адмаўляе рознасьці роляў, якія адыгрываюць паасобныя нацыі і нацыянальнасьці ў разьвіцьці грамадзтва, у гісторыі сусьветнай цывілізацыі. Кажная нацыя ўносіць свой уклад у справу людзкога прагрэсу, аднак гэты ўклад розны паводля свайго значэньня. У сілу разнаякіх гістарычных прычынаў, розныя народы адыгрывалі і адыгрываюць розную ролю ў гісторыі прагрэсыўнага пераўтварэньня грамадзтва. **У пасьлядоўным руху людзкога грамадзтва на долю вялікага расейскага народу прыпала роля вядучай сусьветнай нацыі, зь імём якое зьвязаныя ўсе вырашальныя этапы ў гісторыі сусьветнай культуры».**[21]) Другая канцэпцыя ў сваю чаргу цьвердзіла, што «**савецкая сацыялістычная культура будуецца на аснове найбагацейшай культуры расейскага народу»** (падк. наша — Рэд.)[22])

Як мы адзначалі вышэй, гэтыя дзьве дыскрымінацыйныя канцэпцыі аб гістарычнай ролі расейскага народу й ягонай культуры ў гісторыі падсавецкіх народаў прывялі да яшчэ большага перасьледу разьвіцьця нацыянальных культур у падсавецкіх нацыянальных рэспубліках і да яшчэ большага хвальшаваньня іхнай гісторыі на карысьць гісторыі й гістарычных інтарэсаў расейскага народу. У выніку прыйшлі новыя канфіскацыі ў нацыянальных рэспубліках гістарычнай і мастацкай літаратуры, а таксама сцэнічных твораў, якія ў тэй ці іншай ступені адраджалі гістарычную мінуўшчыну, культуру, і нацыянальныя традыцыі нерасейскіх народаў. У далейшым гэтая літаратура і наагул нацыянальная культура нерасейскіх народаў павінна была разьвівацца ў кірунку выслаўленьня гісторыі й культуры расейскага народу, у кірунку запазычваньняў з культуры расейскага народу і выслаўленьня «расейскага генія» наагул. На гістарычным фронце і фронце палітычных суадносінаў была паўторна асуджаная форма «абсалютнага зла» гістарычнае школы М. Н. Пакроўскага, якая ўважала далучэньне нерасейскіх народаў да Расеі абсалютным злом для гэтых народаў, а адначасна зь ёю была асуджаная і сталінская формула 1930 гадоў «найменшага зла», паводля якое гэтае далучэньне было для нерасейскіх народаў найменшым злом, бо Расея збавіла гэтыя народы ад «замежнага каляніялізму». Як ведама, дыскусія вакол гэтых формулаў разгарэлася ў 1951 годзе, гэта значыць падчас завайстрэньня працэсу нівэляцыі гісторыі нерасейскіх народаў на карысьць гісторыі расейскага народу, а затым яны былі канчальна асуджаныя на 19 зьезьдзе партыі ў выступе прадстаўніка Азэрбайджанскай ССР Багірава, які дамагаўся ад савецкіх гісторыкаў ўсемагчымага паказу «прагрэсыўнага значэньня» далучэньня нерасейскіх народаў да Расеі.[23]) У далейшым гэтае далучэньне і ўваход нерасейскіх народаў у склад расейскай дзяржавы не павінны былі разглядацца хоць-бы пэўнай ступеняй зла, а толькі як прагрэсыўнае зьявішча, як абсалютнае дабро для гэтых народаў. Гэта выклікала асуджэньне найменшых праяваў нацыяналізму ў гістарыяграфіі нерасейскіх народаў, а таксама асуджэньне іхных мінулых і сучасных імкненьняў да нацыянальнага вызваленьня, як «рэакцыйных», «буржуазных» і «замежнай агентуры». Як прыклад такой нівэляцыі гісторыі, можна падаць хоць-бы партыйнае асуджэньне пастановай зь 10-га жнівеня 1950 году нацыянальна-вызвольных рухаў у мінулым горцаў Каўказу пад кіраўніцтвам Шаміля, асуджэньне нацыянальна-вызвольных рухаў сярэдняазіяцкіх народаў і, урэшце, хвальшаваньне гісторыі гэтых рухаў, якое прыйшло за гэтым. Што-ж тычылася гісторыі расейскага народу і гісторыі Расеі, дык цяпер савецкія гісторыкі павінны былі навет выкінуць з тэрміналёгіі савецкай гістарычнай навукі такія тэрміны, як «заваяваньне» і «падпарадкаваньне», падменьваючы іх выразамі накшталт «дабравольнага далучэньня» і «дабравольнага ўваходу».[24]) Зразумела, гэта не магло ня прывесьці да ідэялізацыі гісторыі й гістарычнага генія расейскага народу, і да хвальшаваньня гісторыі ды зьменшваньня гістарычнай ролі нерасейскіх народаў.

[16]) В. В. Пентковская, Роль В. И. Ленина в образовании СССР, «Вопросы истории», № 3, 1956, б. 17.

[17]) Тамсама, б. 17.

[18]) Тамсама, б. 18.

[19]) Тамсама, б. 17—18.

[20]) Образование СССР, № 245, б. 333—337; № 284, б. 422—434.

[21]) «Вопросы истории», 1949, № 3, б. 30: № 2, б. 6.

[22]) тамасама, № 3, 1949, б. 152.

[23]) «Правда», 7. 10. 1952.

[24]) «Вопросы истории», № 11, 1952, б. 149—156.

(Далей будзе)

# Зь беларускага жыцьця

## Наш удзел у Інтэрнацыянальным Дні ў Лёс Анджэлес

У жыцьці нацыянальных групаў Лёс Анджэлесу месяц кастрычнік займае пачэснае месца. Штогоду ў гэтым месяцы нацыянальныя групы з дапамогай мясцовага Інтэрнацыянальнага Інстытуту адзначаюць гэтак званы Інтэрнацыянальны Дзень. У залях гэтага Інстытуту нацыянальныя групы ладзяць тады выстаўкі народнага мастацтва, даюць канцэртныя нумары й прадаюць нацыянальна-характэрную ежу. Звычайна, Інтэрнацыянальны Дзень трывае два дні — сыботу й нядзелю. Сёлета ён выпаў на 10 і 11 кастрычніка. Каля шасьці тысяч асобаў наведвае выстаўку й канцэртную праграму.

Сёлета 34 нацыянальныя групы, у тым ліку й Беларусы, прынялі ўдзел у Інтэрнацыянальным Дні. Беларуская група прыняла ўдзел у народнай выстаўцы (побач зь 15 іншымі нацыянальнасьцямі).

Беларуская выстаўка, якая складалася пераважна з народных вышывак, удалася вельмі добра, нат лепш, чымся некаторыя Беларусы думалі. Аб гэтым сьветчыла прызнаньне кіраўніцтва Інстытуту, уражаньні шматлікіх наведвальнікаў ды й самых Беларусаў. Выгаднае месца ды своеасаблівасьць некаторых экспанатаў, як, прыкладам, мадэль беларускае хаты (выкананы сп. В. Клокам), спрычыніліся да папулярнасьці выстаўкі. партрэт Янкі Купалы, сьцяг і Пагоня падчырквалі нацыянальны характар. Стала прысутныя пры выстаўцы, апранутыя ў нацыянальную вопратку, беларускія прадстаўнікі ахвотна інфармавалі зацікаўленых аб краіне й беларускім народзе, у чым нямала памагала ім карта Беларусі, зьмешчаная ў цэнтры выстаўкі.

Беларуская мастацкая частка складалася з чатырох песьняў («Васілёчкі», «Ох, ці ня ох», «Дзе радзілася» й «Вясна») і танцу «Лявоніха». Выканаўцамі былі сп-ня Марыя Мяленьцева, сп. Алімп Мяленьцеў, сп-ня Нона Мяленьцева й сп. Коста Гопфэр. Таму што ня ўся публіка магла памясьціцца ў аўдыторыі, праграма была пазьней паўтораная пад адкрытым небам. У вабодвых выпадках беларускі выступ быў узнагароджаны бурнымі воплескамі, а з боку чуліся заўвагі, што беларуская група зрабіла большае ўражаньне, чымся групы, што выступалі раней. На пачатку праграмы беларускі канфэрансье паінфармаваў прысутных аб Беларусі, беларускім народзе й ягоных народных песьнях і танцах.

Удачнасьць беларускага ўдзелу ў Інтэрнацыянальным Дні была ня прыпадковая. Да гэтага спрычынілася дружная й самаахвярная праца ў арганізаваньні й ладжаньні выстаўкі й выступу ды ў зьбіраньні й падрыхтоўцы экспанатаў. Некаторыя так заахвоціліся, што ўжо



Сп-ня К. Вініцкая на фоне фрагмэнту выстаўкі

цяпер пачалі рупіцца, каб здабыць больш экспанатаў на выстаўку на наступны год. Зразумела, найбольшы ўклад у выстаўку зрабілі нашыя жанчыны, якім за гэта тут выражаецца шчырая падзяка. Таксама дзякуецца ўсім тым, што прыслалі нам экспанаты й такім чынам спрычыніліся да таго, што беларуская выстаўка выглядала запраўды багата.

**Я. Ар-х**

### ПРАЦА АНТ. АДАМОВІЧА ПРЫГАДВАЕЦЦА Ў АМЭРЫКАНСКІМ КАНГРЭСЕ

Кангрэсмэн Томас Б. Куртыс із штату Місуры 15 ліпеня 1959 г. выступіў у Палаце Рэпрэзэнтантаў (Ніжэйшая Палата) з матар' яламі пра антыкамуністычную дзейнасьць Амэрыканскага Камітэту Вызваленьня. Гаворачы пра выданьні АКВ сп. Т. Куртыс адзначыў таксама працу беларускага дасьледніка праф. Антона Адамовіча «Супраціў саветызацыі ў беларускай літаратуры», што была выдадзеная ў Нью-Ёрку ў 1957 г. амэрыканскім выдавецтвам Скэркроў Прэс.

### УВАГА, БАЦЬКІ, УВАГА!

Прыйшла восень, зьбліжаецца зіма. Не марнуйце часу. Вучэце сваіх дзяцей **беларускай мовы і пісьменнасьці** дома, калі ў Вас няма Беларускай Школы, або Вам немагчыма пасылаць дзяцей.

Зьвяртайцеся па патрэбныя кніжкі на ніжэй пададзены адрыс. Высылаецца **лямантар і чытанка** з прыгожымі апавяданьнямі, вершамі, песьнямі ды практыкаваньнямі. У падрыхтоўцы:

Падручнік да гісторыі Беларусі
Выпісы зь беларускай літаратуры
Беларуская граматыка
Школьны дэкляматар

Адрыс: В. Пануцэвіч, 2042 W. St. Paul Ave. Chicago 47. Ill. U.S.A.

# Аб Выстаўцы Вынаходзтваў у Нюрэнбэргу

«Нюрэнбэрг — горад вынаходнікаў». Гэтак завецца гістарычная частка сёлетняй Выстаўкі Вынаходзтваў у Нюрэнбэргу, якая трывала ад 24-га кастрычніка да 1-га лістапада.

Мы пачалі ад гістарычнай часткі і таму на ёй перш за ўсё спынімся.

Увайшоўшы ў «Мэсэгале» — вялізарны будынак, дзе адбываюцца розныя выстаўкі й міжнародныя кірмашы — мы апынаемся ў залі, дзе за шклом выстаўленыя арыгіналы, мадэлі й ілюстрацыі вынаходзтваў, зробленых у старыя часы жыхарамі Нюрэнбэргу. Тут мы бачым арыгінал першага ў сьвеце глёбусу, які быў зроблены ў 1491 годзе; разглядаем ілюстрацыі із старых кнігаў першых у Нямеччыне спробаў палётаў балёнам, праведзеных у тым-жа Нюрэнбэргу ў 1500 годзе. Нас зьдзіўляе вынайдзены ў 1590 годзе «лічыльнік крокаў» дзеля вымерваньня адлегласьці — усяго пералічаць ня будзем. Наведвальнік бачыць, што жыхары Нюрэнбэргу даказалі сваю вынаходлівасьць на працягу стагодзьдзяў.

З тым большай цікавасьцяй, зь мінуўшчыны мы акунаемся ў сучаснасьць — пераходзім у залю, дзе дэманструюцца апошнія вынаходзтвы, ня толькі нюрэнбэрскіх і ня толькі нямецкіх, але й ангельскіх, аўстрыйскіх, бэльгійскіх, галяндзкіх і швайцарскіх вынаходнікаў. Ад разнаякасьці вынаходзтваў разьбягаюцца вочы. З аднаго боку, вам паказваюць прылады дзеля вымярэньня вільготнасьці й прасушваньня сьценаў у памешканьнях. Вы адным вухам слухаеце тлумачэньні вынаходніка гэтых прыладаў, і адначасна разглядаеце «кнігагартальнік» — гэта значыць прыладу, якая аўтаматычна гартае старонкі. Скажаце мо прылада для гультаёў, тоўстых буржуяў? Не — падумайце аб бязрукіх калеках, або хоць-бы аб музыках, якім нязручна гартаць ноты падчас іграньня, ці навет аб хатніх гаспадынях, што, вяжучы ў вольную хвіліну свэтар, могуць з дапамогай гэтай прылады не адрываючыся чытаць кнігу. А вось іншая прылада, вакол якое стаіць натоўп жанчын. Гэта націральнік падлогаў, ужываючы які, ня трэба ніразу нагінацца: адпаведная вакса падаецца аўтаматычна. Далей стаіць газавая плітка, пры якой магчымасьць атручэньня газам выключаная; пры адкручаным кране газ аўтаматычна загараецца — навет заліўшы вадой... А вось сядзіць чалавек за пішучай машынай. Ён дэманструе вынаход. Сакратарка, якая зробіць памылку пры пісаньні, ня будзе мець больш клопатаў. Памылка пакрываецца паперкай, насычанай адпаведнымі хімікатамі, адзін стук клявішы, і намесцы памылкі чыстае месца — можаце на гэтым месцы пісаць патрэбную вам літару.

А колькі ўдасканаленьняў у абсталяваньні кухні? Прыкладам, абед ўжо гатовы. У невялікай кухні пры сьцяне стаіць шафа. Гаспадыня цягне за ручку аднэй з шуфлядаў — і вось вам стаіць стол, за які можна пасадзіць пяць асобаў сям'і...

Шмат месца на выстаўцы займаюць вынаходзтвы-ўдасканаленьні для аўтамабілістых, пачынаючы аўтаматычным пераключэньнем сьвятла пражэктара пры сустрэчы зь іншым аўтамабілем, і канчаючы аўтаматычнай «чаравікасушылкай». Непатрэбшчына? Наксама не. Скажам, пры мокрым надвор'і ці сьнезе ваша нага можа лёгка сасьлізнуцца з пэдалю, а пры густым вулічным і дарожным руху, гэта можа скончыцца няшчасьцем.

Вынаходзтваў на апісванай намі выстаўцы ў Нюрэнбэргу — сотні. Усіх іх не пералічым. Пройдзе некалькі месяцаў, і шмат зь іх, апрача тысячаў ужо ў продажы, будуць даступныя шырокім масам спажыўцоў — ня толькі ў Нямецкай Фэдэральнай Рэспубліцы, але і ў іншых краінах вольнага сьвету. І тут міжволі прыгадваецца нядаўны ўказ аб устанаўленьні ў Беларускай ССР ганаровых тытулаў «Заслужанага вынаходніка» і «заслужанага рацыяналізатара». На першы погляд выглядае, што ў БССР, выдаўшы такі ўказ, партыя клапоціцца аб павышэньні дабрабыту насельніцтва. Радасьць гэтая і перадчасная, і неабгрунтаваная. Калі мы прасочым за ўсімі рэйдамі, праведзенымі за апошнія месяцы на заводах і хвабрыках БССР дзеля выкрыцьця нястачаў ў справе ўкарэньваньня новых вынаходзтваў і рацыяналізатарскіх спосабаў, дык пабачым вось што: уся крытыка ўдзельнікаў рэйдаў канцэнтруецца на **цяжкой** прамысловасьці; на лёгкую прамысловасьць, што прадукуе тавары шырокага ўжытку, не зьвяртаюць ніякай увагі, нягледзячы на нядаўныя абяцаньні пашырыць іхны асартымэнт і павялічыць колькасьць. Таму ўжо можна прадбачыць, што вынаходнікі ў гэтай галіне ня могуць шмат разьлічваць на ганаровыя тытулы, а насельніцтва — на выкананьне партыйных абяцаньняў аб павышэньні жыцьцёвага ўзроўню...

З такімі цяжкімі думкамі мы пакінулі выстаўку вынаходзтваў Нюрэнбэргу.

**У. Н.**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

# Расказваюць дакуманты гісторыі

Гэтым летам у Вільні й Маладэчанскай вобласьці пад кіраўніцтвам доктара мастацтвазнаўства прафэсара М. Кацара працавала навуковая экспэдыцыя Інстытуту мастацтвазнаўства, этнаграфіі й фальклёру Акадэміі навук БССР.

Мэта навуковай экспэдыцыі — сабраць новыя матар'ялы аб беларускім выяўленчым й прыкладным мастацтве.

Па дакумэнтах Дзяржаўнага гістарычнага архіву Літоўскай ССР удалося ўстанавіць сувязі перадавых беларускіх мастакоў Кулеша, Сьлізеня і некаторых іншых з рэвалюцыйна-дэмакратычным рухам.

У дзейнасьці шматлікіх тайных таварыстваў прымалі ўдзел многія навучэнцы Віленскай мастацкай школы, якая йснавала пры Віленскім унівэрсытэце.

Знойдзены зьвесткі аб удзеле многіх мастакоў-Беларусаў у паўстаньнях 1830-31 і 1863 гадоў.

Аб культуры й дзеячох мастацтва Летувы й Беларусі цікава й поўна расказваецца ў успамінах Крашэўскага, Кіркора, Урублеўскага, Шэмеша й іншых, якія выдадзены на польскай мове й захоўваюцца ў аддзеле рэдкай кнігі бібліятэкі Акадэміі навук Літоўскай ССР.

У рукапісным аддзеле Віленскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту добра захаваліся графічныя працы мастакоў А. Бартальса, П. Баркоўскага, П. Кудраўцава, замалёўкі адзеньня й абутку жыхароў Берасьцейшчыны, што зрабіў былы настаўнік Берасьцейскай гімназіі Ганьбееў.

Пасьля азнаямленьня з матар'ялами й фондамі бібліятэк, музэяў Вільні ды гутарак зь віднымі дзеячамі летувіскай культуры й мастацтва асобныя сябры навуковай экспэдыцыі накіраваліся ў раёны Маладэчанскай вобласьці. Яны пабывалі на бацькаўшчыне беларускіх мастакоў Фэрдынанда Сушчыца й Нікадзіма Сільвановіча.

Удалося адшукаць некаторыя мазаічныя працы мастака Сільвановіча. Аб творчай дзейнасьці й жыцьцёвым шляху Сільвановіча расказаў яго пляменьнік — Язэп Лукоўскі зь вёскі Зімодры Вілейскага раёну, куды амаль кажнае лета мастак прыяжджаў у свой час з Пецярбургу.

Сабраныя матар'ялы папоўняць бачынкі гісторыі беларускага выяўленчага й прыкладнога мастацтва.

(«Зьвязда», 20. 10. 59)

**ХОЧАШ ЗРАБІЦЬ СВАЙМУ БЛІЗКАМУ ПРЫЕМНАСЬЦЬ І АДНАЧАСНА КАРЫСЬЦЬ ДЛЯ БЕЛАРУСКАЙ СПРАВЫ, ПАДАРУЙ ЯМУ КАМПЛЕКТ КНІЖАК ВЫДАВЕЦТВА «БАЦЬКАЎШЧЫНЫ»**

# СТУДЭНЦКІ САКРАТ

Маладосьць заўсёды прыгадваецца нам у нейкім ружовым сьвятле. Асабліва студэнцкія гады. Навет у тэй краіне, дзе пануе тэрор і гвалт, цяжкая доля студэнта зьвініць сьмехам. Праз маладосьць ідуць весялосьць і жарты.

Быў час пасля НЭП-у. Савецкія студэнты тады ледзьве трымаліся на нагах. Ні дыямат, ні палітэканомія ня лезьлі ў галаву. Думалі адно пра ежу.

У студэнцкай сталоўцы звычайна давалі паўгнілую рыбу-траску або гэтак званы «вінігрэт» — мешаніну бульбы, бурака і капусты. Студэнты звалі рыбу бялугай (бо ад яе і сам бялугай вяеш), а той абрыдлы «вінігрэт» — сіласам.

Было і яшчэ горш. Ні тае «бялугі», ні таго «сіласу». А толькі каша-панцак. Ды яшчэ мала звараная. Крупы, як шрот. Зьверху рэдкі кісель замест масла. А з чаго кісялёк той зроблены хіба толькі адзін кухар ведаў. Казалі, зь яблачнага ўзвару. Можа і праўда, але на смак горш за рыцыну. Лыжкай адграбалі і елі нішчымную кашу.

Хоць галодныя былі, а жартавалі: «Шрот у жывот, а кампот на талерцы».

Вось на такіх харчох жылі й вучыліся.

Трэба сказаць, у нашым інтэрнаце ўсе студэнты былі вэгэтарыянцамі. Ня елі мясных прадуктаў. Але гэта не зь перакананьняў. Кажны думаў пра катлетку. Толькі дзе-ж дастаць мяса? На чорным рынку? З пустымі кішэнямі? Гэта — запраўды праблема!

Але вось аднойчы ўсе разам скlаліся грашыма дый купілі конскую каўбасу. Такога радаснага сьвята мабыць і князі ня бачылі ў сваім жыцьці. Хлопцы несьлі каўбасу да стала і крычэлі:

— Конная Будзённага!

Некаторыя, імітуючы коняй, моцна іржалі. Нехта дасьціпна кпіў:

— А можа ў сярэдзіне каўбасы падкова знойдзецца? Пашукайце.

Каўбасу ўрачыста дзялілі на восем роўных частак. Аднаго сябру ў нашым пакоі мы ня ўлічвалі. Ён сядзеў на сваім ложку і чытаў кніжку. Ягонае прозьвішча было Шкурат ці нешта падобнае. Але мы ўсё яго звалі Сакратам.

— Ён у нас філязоф. — казалі студэнты і часта сьмяяліся зь ягоных дзівацтваў. Вось гэты чалавек быў запраўдным вэгэтарыянцам. Ня з прычыны нястачаў ды галоднага часу, але менавіта з уласных перакананьняў. Навет і рыбы ня еў. «Кажная істота хоча жыць, — казаў ён, — і яе трэба любіць, а ня жэрці».

Усе сьмяяліся, а гэты Сакрат ня крыўдзіўся, а толькі мармытаў: «Сьмяюцца... Неразумна... Неразумна»...

Ён быў прынцыповым. Ня браў у рукі нічога, як ён казаў, «трупнага». Навет гідзіўся скураных рэчаў. Хадзіў ён узімку ў валенках, а ўлетку ў парусінавых чаравіках на гумовых падэшвах. Падпярэзваўся парцяным паяском. Партфэль у яго быў цыратавы, а партманэт шаўковы. Хлопцы часта жартавалі над ім. У ягоны партфэль цішком клалі хвост селядца або скурку ад каўбасы. Чакалі — якое будзе рэагаваньне нашага філязофа. А ён сабе спакойна, грэбліва крывячы губы, вымаў з партфэлю дрэнь. «Неразумна.. неразумна...» — ціха казаў ён.

— Сакрат! Скажы нам: зь якога мора да цябе рыба прыплыла? Як яна трапіла ў твае рэчы? Ха, ха, ха.

Сьмех і кпіны не злавалі Сакрата. Ён маўчаў або дакараў разважна: «Ваш сьмех — тупая зброя, яна накіраваная супраць вас».

Сябры ў ягоную філязофію ня ўдумваліся. А ўсё-ж было цікава яго паслухаць. Ён быў знаўцам мастацкай літаратуры. Любіў Льва Талстога. Чытаў у арыгіналах творы францускіх паэтаў. У ягонай памяці было шмат цытатаў з твораў вялікіх людзей. Але ён ніколі ня выдаваў іх за свае думкі, а заўсёды падкрэсьліваў у гутарцы аўтара. А гаварыў ён прыгожа. За сьмеласьць, за сваю ідэю студэнцкі Сакрат загінуў. Хадзілі чуткі, што яго арыштавалі за ягоную ўласную філязофію. А можа і за тое, што аднойчы, чытаючы газэту, ён сказаў:

— Пішуць, што зьніжаецца прадукцыя на мясакамбінаце. А хіба гэта кепска? Я цешуся... Я — супраць праліцьця крыві.

**К. Рамановіч**

# „Пісьменьнікі Савецкай Беларусі“

Пад такім назовам Дзяржаўнае Выдавецтва БССР выдала сёлета біяграфічны даведнік. Тут зьмешчаны кароткія (аб больш ведамых пісьменьніках — даўжэйшыя) біяграфічныя дадзеныя 223 пісьменьнікаў Савецкай Беларусі. Пры кажнай біяграфіі зьмешчана таксама фатаграфія дадзенага пісьменьніка.

Пачынаецца даведнік больш абшырнымі біяграфіямі Янкі Купалы, Якуба Коласа й Кандрата Крапівы, а далей — рэшта пісьменьнікаў у альфабэтычным парадку.

Біяграфічныя дадзеныя — стандартныя: дата й месца нараджаньня, адукацыя, літаратурная творчасьць (назовы твораў з датамі іх апублікаваньня), калі пісьменьнік ужо памёр — дата сьмерці; у пісьменьнікаў узнагароджаных савецкай уладай — пералік узнагародаў.

Сярод гэтага ліку 223 пісьменьнікаў БССР знаходзіцца больш за два дзесяткі пісьменьнікаў расейскіх і жыдоўскіх. Расейскія пісьменьнікі — гэта або запраўды Расейцы, што з тых ці іншых прычынаў жывуць на Беларусі, ці зрусыфікаваныя Беларусы, што пішуць парасейску.

У даведнік уведзены таксама біяграфіі рэгабілітаваных пісьменьнікаў. Але, як правіла, у іх біяграфіях адцемлены іхныя «грахі» ў мінуласьці. Вось колькі прыкладаў: «У некаторых творах мелі месца ідэйныя хібы» (у Ул. Дубоўкі); «У паасобных творах Я. Пушчы мелі месца ідэйныя памылкі»; «У радзе твораў А. Дудара мелі месца памылкі ідэялягічнага характару»; «У некаторых творах М. Зарэцкі дапусьціў ідэйныя памылкі, за што ў свой час яго крытыкавала савецкая грамадзкасьць», і г. д.

### ШУКАЮЦЬ...

Шукаю сваіх сыноў Браніслава і Канстанціна **Раманоўскіх.** Весткі ветліва прашу слаць на адрыс:

J. Romanowski, 97 Keymer St., Belmont W. Australia.

☆

Павал **Гарох,** пражываючы ў Кліўлендзе, Амэрыка, шукае Сяргея **Анішчыка** зь вёскі Баравікі й Мікалая **Салаўя зь** вёскі Глоўсевічы. Абое праўдападобна выехалі ў Аўстралію. Усе весткі аб іх просіцца слаць на прадстаўніцтва «Бацькаўшчыны» ў Кліўлендзе.

☆

Брата Мікалая Сідорыка, з Навасёлак, Кастравіцкай вобласьці вывезенага Немцамі ў 1942/3 г. шукае сястра Вера Скок-Сідорык зь дзяцьмі Сяргеям, Любай, Міхалам і Зінай. Пісаць на адрыс рэдакцыі.


### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.
**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St., Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.
**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 76, Tiridentes, Curitiba — Parana.
**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave., Cleveland 13, Ohio.
**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave., Toronto, Ont.
**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France,** 26, rue de Montholon, Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber, Mouvaux (Nord).



**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры й грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыялямі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**